# Голас Радзімы

№ 24 (2062)
16 чэрвеня 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



Сусветна вядомы спартыўны комплекс Стайкі, што пад Мінскам. Ён з'яўляецца базавым цэнтрам падрыхтоўкі многіх каманд Савецкага Саюза перад самымі адказнымі спаборніцтвамі. Вось і ў гэтыя дні тут жывуць і трэніруюцца кандыдаты ў алімпійскую зборную нашай краіны. Сярод іх нямала прадстаўнікоў Беларусі. Аб падрыхтоўцы да Алімпіяды ў Сеўле расказвае старшыня Дзяржаўнага камітэта БССР па фізкультуры і спорту В. САЗАНОВІЧ у гутарцы з нашым карэспандэнтам. [Заканчэнне фотарэпартажу пра Стайкі і матэрыял «З чым на Алімпіяду!» змешчаны на 5-й стар.].

НА ЗДЫМКАХ: агульны выгляд комплексу; у такіх добротных катэджах жывуць спартсмены; чэмпіён свету па барацьбе самба мінчанін Віктар БУХВАЛ.





З ПАВЕДАМЛЕННЯЎ ТАСС

# У КОСМАСЕ МІЖНАРОДНЫ ЭКІПАЖ

7 чэрвеня 1988 года ў Савецкім Саюзе ажыццёўлены запуск касмічнага карабля «Саюз ТМ-5».

Карабель пілатуе міжнародны экіпаж: камандзір Анатоль Салаўёў, бортінжынер двойчы Герой Савецкага Саюза лётчык - касманаўт СССР Віктар Савіных і касманаўт - даследчык грамадзянін Народнай Рэспублікі Балгарыі Аляксандр Аляксандраў.

Другі палёт міжнароднага экіпажа з удзелам балгарскага касманаўта ажыццяўляецца ў адпаведнасці з дагаворанасцю паміж урадамі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік і Народнай Рэспублікі Балгарыі.

Камандзір карабля Анатоль Салаўёў здзяйсняе свой касмічны палёт упершыню. Нарадзіўся ў 1948 годзе ў Рызе. Скончыў Чарнігаўскае вышэйшае ваеннае авіяцыйнае вучылішча лётчыкаў імя Ленінскага камсамола. Служыў у Ваенна-Паветраных Сілах. У 1976 годзе быў залічаны ў атрад касманаўтаў. Закончыў школу лётчыкаў- выпрабавальнікаў. Анатоль Салаўёў прайшоў поўны курс падрыхтоўкі да палётаў на касмічных караблях і арбітальных станцыях.

Двойчы Герой Савецкага Саюза, лётчык-касманаўт СССР Віктар Савіных здзейсніў касмічныя палёты ў 1981 годзе на караблі «Саюз Т-4» і арбітальнай станцыі «Салют-6» і ў 1985 годзе на караблях «Саюз Т-13» і «Саюз Т-14» і арбітальнай станцыі «Салют-7».

Аляксандр Аляксандраў да касмічнага палёту пачаў рыхтавацца ў 1978 годзе. Быў дублёрам першага балгарскага касманаўта Георгія Іванова. Прайшоў поўны курс падрыхтоўкі да палёту на касмічных караблях і арбітальных станцыях.

9 чэрвеня 1988 года праведзена стыкоўка касмічнага карабля «Саюз ТМ-5» з навукова-даследчым комплексам «Мір».

На каляземнай арбіце да выканання праграмы сумесных даследаванняў і эксперыментаў прыступіў міжнародны экіпаж — савецкія касманаўты Уладзімір Цітоў, Муса Манараў, Анатоль Салаўёў, Віктар Савіных і балгарскі касманаўт Аляксандр Аляксандраў.

Навуковая праграма палёту разлічана на 8 дзён.

Міжнароднаму экіпажу трэба будзе выканаць вялікую праграму астрафізічных даследаванняў, правесці фатаграфаванне паверхні Зямлі, у тым ліку тэрыторыі Народнай Рэспублікі Балгарыі. Запланаваны таксама медыка-біялагічныя даследаванні, эксперыменты па касмічнаму матэрыялазнаўству. Значная частка сумесных работ будзе выконвацца з выкарыстаннем навуковай апаратуры створанай балгарскімі спецыялістамі і дастаўленай на арбіту грузавым караблём «Прагрэс-36».



Савецка-балгарскі экіпаж: (злева направа) грамадзянін НРБ касманаўт-даследчык Аляксандр АЛЯКСАНДРАЎ, камандзір экіпажа Анатоль САЛАЎЁЎ і бортінжынер лётчык-касманаўт СССР двойчы Герой Савецкага Саюза Віктар САВІНЫХ.

РЭХА ВІЗІТУ

# Р. РЭЙГАН У СВЯТА-ДАНІЛАВЫМ МАНАСТЫРЫ

**Як вядома, у час свайго візіту ў Маскву Прэзідэнт ЗША наведаў адміністрацыйны цэнтр Рускай Праваслаўнай Царквы — Свята-Данілаў манастыр. Вось як пракаменціраваў гэтую падзею Старшыня Аддзела знешніх царкоўных зносін Маскоўскага Патрыярхата мітрапаліт Мінскі і Беларускі ФІЛАРЭТ.**

Я не буду спыняцца на дэталях і пракаменцірую толькі агульнае ўражанне ад візіту Прэзідэнта ЗША Р. Рэйгана ў Свята-Данілаў манастыр. Вялікія былі прыгатаванні, размовы, дыскусіі аб праграме, пратаколе. Нам, вядома, хацелася пасвойму пабудаваць праграму знаходжання Прэзідэнта ў манастыры. Але, на жаль, мы былі абмежаваны тымі рамкамі, у якія паставіла нас пратакольная служба Прэзідэнта.

Перш за ўсё мы думалі, што Прэзідэнт ЗША знойдзе час наведаць Патрыяршы дом на тэрыторыі манастыра, сустрэцца з Патрыярхам Маскоўскім і ўсяя Русі Піменам. Але нам сказалі, што Прэзідэнт наведае толькі Пакроўскі сабор і храм Сямі Усяленскіх Сабораў і жадае мець кароткую сустрэчу з насельнікамі манастыра.

Тым не менш мы лічым, што візіт быў карысны. Таму што Прэзідэнт упершыню твар у твар сустрэўся з Рускай Праваслаўнай Царквою, з яе прадстаўнікамі, з жывым царкоўным паданнем, якое і захоўвае адроджаны Свята-Данілаў манастыр. Відаць было, што на Прэзідэнта зрабілі вялікае ўражанне і сам манастыр, яго стан, рускі іканапіс і маладое энергічнае брацтва.

Але слова, з якім выступіў Прэзідэнт, было не ў ключы новага мыслення, гэта выступленне адносілася да «плюсквамперфекта», гэта значыць даўно мінулага часу. Быць у гасцях і гаварыць аб праблемах у доме гаспадара, будучы не да канца дасведчаным у рэальнай сітуацыі, — не зусім дарэчы. Тое, што мы пачулі ад прэзідэнта, мякка кажучы, выклікала ў нас здзіўленне. Гэта ўсё той жа сум па «свабодзе веравызнання ў Савецкім Саюзе», няведанне факта аддзялення царквы ад дзяржавы. Пані Рэйган так і спытала: ці спадзяецеся вы, у сувязі з перабудовай, на сапраўднае аддзяленне царквы ад дзяржавы?

Таму міжволі задаеш сабе пытанне: што гэта — няведанне ці ігнараванне ўсяго, што было дасягнута грамадствам у працэсе дэмакратызацыі?

З-за кароткага візіту немагчыма было адказаць высокім гасцям. І, акрамя таго, мы не так выхаваны, каб ставіць чалавека ў няёмкае становішча: гэта ж быў не дыскусійны клуб, а ўсё-такі сустрэча з Прэзідэнтам!

Тым не менш у нас ёсць надзея, што візіт у Свята-Данілаў манастыр усё-такі зрабіў належнае ўражанне на Прэзідэнта, яго жонку, і, магчыма, у большай ступені на акружэнне Прэзідэнта, якое так клапацілася, каб гэты візіт быў кароткі, і нават спрабавала парушыць наш манастырскі чын і статут. Мы хацелі сустрэць Прэзідэнта ля Святых варот манастыра. Але тут узялі верх меры бяспекі, якія, на мой погляд, у дадзеным выпадку былі празмернымі.

У нас засталося ўражанне, што Прэзідэнт, мяркуючы па таму, якія акцэнты ён расставіў у сваёй прамове, не надаў належнага значэння гістарычнай сустрэчы 29 красавіка Патрыярха Маскоўскага і ўсяя Русі Пімена і Свяшчэннага Сінода Рускай Праваслаўнай Царквы з Міхаілам Сяргеевічам Гарбачовым. Добразычлівы тон гэтай сустрэчы, жаданне М. С. Гарбачова ў дэталях ведаць усе праблемы ўзаемаадносін царквы і дзяржавы, яго патрабаванне абсалютнага захавання савецкага заканадаўства аб культах — вось гэты фон сустрэчы, выключна важны для разумення сучаснага становішча царквы ў нашай краіне, мы ў кароткіх словах хацелі давесці да ведама высокіх гасцей.

Падзяліліся мы з Прэзідэнтам і такім выдатным фактам, як перадача Рускай Праваслаўнай Царкве святых мошчаў са сховішчаў старажытных сабораў Крамля, — гэта яшчэ адно сведчанне глыбокага разумення дзяржавай нашых унутрыцаркоўных праблем.

Выказваем надзею, што візіт Прэзідэнта Р. Рэйгана ў Свята-Данілаў манастыр, прыём, наладжаны ў яго гонар, сумесныя малітвы прадстаўнікоў цэркваў Савецкага Саюза і ЗША, якія праводзіліся ў гэтыя дні, паслужаць свяшчэннай справе міру і дружбы паміж нашымі народамі.

УЗНАГАРОДЫ ГДР

## ВЫСОКАЯ АДЗНАКА

Значная частка грузаў, якую адпраўляем з Савецкага Саюза ў Германскую Дэмакратычную Рэспубліку і атрымліваем з гэтай краіны, праходзіць па сталёвых магістралях Беларускай чыгункі. За актыўнае садзеянне ў арганізацыі перавозак, вялікі ўклад у развіццё супрацоўніцтва народаў дзвюх краін і ў сувязі з Днём чыгуначніка і работніка транспарту ГДР група працаўнікоў сталёвых магістралей нашай рэспублікі адзначана дзяржаўнымі медалямі «За заслугі на чыгуначным транспарце ГДР» першай ступені.

Генеральны консул ГДР у Мінску В. Янда на сяброўскай сустрэчы, якая адбылася ў Генконсульстве ГДР, уручыў ад імя міністра транспарту Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі ганаровыя ўзнагароды.

ДЛЯ ВЯСКОЎЦАЎ

## ПЕРАСОЎНЫ БАСЕЙН

Пакінуўшы кабіны трактароў, механізатары аднаго з аддаленых палявых станаў саўгаса «Пціч» Мінскага раёна дружна накіраваліся... у басейн, які размясціўся на краі нівы, асвяжыліся і з новымі сіламі ўзяліся за работу. А праз некалькі дзён на яго блакітных дарожках ужо жыхары цэнтральнай сядзібы гаспадаркі праводзілі спаборніцтвы па плаванню.

Выпускае навінку адно з маскоўскіх прадпрыемстваў. Каштуе яна 21 тысячу рублёў. «Пабудаваць» такі зборна-разборны басейн вельмі проста. Збіраецца металічны каркас, у яго ўкладваецца вялікая «ванна» з тоўстага прагумаванага матэрыялу з паралонавай пракладкай, затым устанаўліваюцца дэзінфекцыйныя фільтры, запампоўваецца вада і падключаецца сістэма электраабагравання. Затрачваецца на гэта ўсяго адзін дзень. Пры неабходнасці два грузавікі лёгка перавозяць басейн у патрэбнае месца.

Даўжыня цуда-басейна дваццаць пяць, а шырыня — дзесяць метраў. Ён карыстаецца вялікай папулярнасцю ў вяскоўцаў.

СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧЫЯ МАШЫНЫ

## АГРАПРОМ ЗАПРАСІЎ НА КІРМАШ

Перад тым як трапіць на палі і фермы, новая тэхніка звычайна трымае строгі экзамен на Заходняй машынавыпрабавальнай станцыі пад Мінскам. На гэты раз яна стала месцам, дзе навінкі праходзяць зусім іншы экзамен. Тут адбылася рэгіянальная выстаўка-кірмаш сельскагаспадарчых машын і абсталявання, арганізаваная Дзяржаграпромам БССР.

Упершыню такое мерапрыемства было праведзена год назад. Цяпер яго маштабы больш шырокія. У ім удзельнічалі прадстаўнікі нашай рэспублікі, Літвы, Латвіі, Эстоніі, Карэліі, Комі АССР і сямі паўночна-заходніх абласцей РСФСР. Запрошаны таксама госці з Украіны, Краснадарскага і Стаўрапольскага краёў, Бранскай, Растоўскай і Смаленскай абласцей.

Важнейшая задача машынабудаўнікоў — забяспечыць сельскую гаспадарку і перапрацоўчую прамысловасць сучаснай дасканалай і высокапрадукцыйнай тэхнікай. Таму галоўная мэта выстаўкі-кірмашу — паказ новых машын і абсталявання, рэкамендаваных у вытворчасць.

На выстаўцы прайшоў сімпозіум па пытаннях механізацыі сельскагаспадарчай вытворчасці. Акрамя таго, кіраўнікі і спецыялісты гаспадарак змаглі атрымаць кваліфікаваную кансультацыю па ўкараненню інтэнсіўных тэхналогій.

ЗДАРЭННІ

## МІНЫ... У ГАРОДЗЕ

Бядой магла закончыцца для жыхара Рагачова І. Тодзіна спроба пракласці праз свой агарод водаправодную трубу. Толькі прадпрымальны гаспадар пачаў капаць траншэю, як лапата заскрыгатала па жалезу — з зямлі паказаўся іржавы кругляш. Прыгледзеўся ён больш уважліва і пахаладзеў — міна!

Пра знаходку неадкладна паведаміў у раённы ваенкамат. Аператыўна прыбыла на месца здарэння група сапёраў на чале з маёрам М. Русаковым. Шэсць гадзін працягвалася небяспечная работа. Яна ўскладнялася тым, што смертаносны клад залягаў у шчыльным грунце. Міны, што праляжалі ў зямлі больш за сорак год, даводзілася выцягваць вельмі асцярожна і пераносіць у кузаў спецыяльнага аўтамабіля.

Мужнасць і майстэрства воінаў перамаглі: аперацыя завяршылася паспяхова. Салідны «ураджай» — шаснаццаць мін буйнога калібру сабралі яны з агароду. Неўзабаве ў глухім урочышчы прагучалі мірныя выбухі.

Даўно адгрымелі апошнія залпы вайны, але яна не-не, ды і нагадвае аб сабе праз дзесяцігоддзі. Толькі за апошнія паўтара года на тэрыторыі рэспублікі сапёры абясшкодзілі 35 тысяч узрыванебяспечных прадметаў.

ПЕРАДАЮЦЦА ТРАДЫЦЫІ

## ХТО ГАРШКІ АБПАЛЬВАЕ?

**Вядома, не багі. Наглядна гэтую ісціну пацвердзілі дубровенскія ганчары Васіль Кленавой, Міхаіл Шэпін, Рыгор Сіманькоў. Прыехаўшы ў Віцебск па запрашэнню супрацоўнікаў абласнога навукова- метадычнага цэнтра народнай творчасці, таленавітыя майстры правялі своеасаблівы адкрыты ўрок ганчарнай тэхнікі для навучэнцаў прафтэхвучылішчаў — будучых спецыялістаў па кераміцы. Яны тварылі на вачах у гледачоў і дарылі ім на памяць свае творы.**

**А ў «раскладзе на заўтра» пазначаны таксама паказальныя заняткі ткачоў і пекараў, майстроў мастацкага роспісу і саломапляцення.**

## ДЭПУТАТЫ І ІХ ВЫБРАННІКІ: СТЫЛЬ УЗАЕМААДНОСІН

# КІРАВАЦЬ ПРАЗ ЛЮДЗЕЙ

**Адной з найгалоўнейшых праблем, што павінна вырашыць перабудова, мы называем павышэнне ролі і адказнасці выбарных органаў Савецкай улады — Саветаў усіх рангаў, ад Вярхоўнага да сельскіх і пасялковых. За гады культу асобы, гады застою гэтыя ўстановы знізілі свой уплыў на ход нашага жыцця, у значнай ступені бюракратызаваліся. І цяпер выпраўляць становішча не так і проста. Але неабходна. Пра тое, як сёння складваюцца ўзаемаадносіны выбаршчыкаў і дэпутатаў, як ідзе працэс дэмакратызацыі, пашыраецца публічнасць у рабоце раённага Савета, гутарка з сакратаром выканаўчага камітэта Партызанскага раённага Савета народных дэпутатаў горада Мінска Аленай ЛІННІК.**

*— Алена Ігараўна, Партызанскі раён — адзін з самых прамысловых у сталіцы рэспублікі. Таму, каб пачаць асноўную тэму нашай гутаркі, магчыма, спачатку варта расказаць пра патэнцыял таго рэгіёна, якім кіруе Партызанскі райсавет...*

— Так, Партызанскі раён Мінска — адзін з найбольш індустрыяльных у сталіцы Беларусі. Ён займае вялікую тэрыторыю — больш за 25 квадратных кіламетраў, тут жыве 121,7 тысячы чалавек. Тут жа размешчаны 16 прамысловых прадпрыемстваў і 13 будаўнічых арганізацый, 79 прадпрыемстваў сферы абслугоўвання. Гадавы аб'ём вытворчасці роўны 1 мільярду 103 мільёнам рублёў, што складае шостую частку прадукцыі, якая выпрацоўваецца прамысловасцю Мінска. Чытачы газеты, мяркую, ведаюць пра трактары папулярнай маркі «Беларусь»? Яны шырока ідуць на экспарт. Дык вось, прадпрыемства гэта — Мінскі трактарны завод — «наша», у нашым раёне. Выпускаем таксама запасныя часткі да сельгасмашын, спецыяльныя і агрэгатныя станкі, разнастайныя харчовыя тавары, тавары паўсядзённага попыту. Да ліку найбольш буйных прадпрыемстваў, акрамя трактарнага, які выпускае ў год больш за 92 тысячы колавых трактароў, адносяцца маторны, электратэхнічны, аўтаматычных ліній, шасцерняў, інструментальны заводы, аб'яднанні малочнай прамысловасці, безалкагольных напіткаў... Як бачыце, патэнцыял, сапраўды, велізарны.

*— Што ж галоўнае вылучае для сябе выканкам у сённяшняй перабудове?*

— Быць бліжэй да людзей, кіраваць не толькі ў інтарэсах людзей, але ўсё больш праз іх саміх — вось што вызначае сёння ўсю дзейнасць раённага Савета і яго выканкома. Мы стараемся шырэй далучаць саміх працоўных да распрацоўкі і рэалізацыі планаў эканамічнага і сацыяльнага развіцця прадпрыемстваў, пераходу іх на гаспадарчы разлік і самафінансаванне. У мінулым годзе прайшло амаль чатырыста сходаў працоўных калектываў, дзе мы вырашалі разам, што рабіць у кожнай канкрэтнай справе.

*— Якія яшчэ прыкметы дэмакратызацыі нашых выбарных органаў улады?*

— Стала шырока практыкавацца выбарнасць гаспадарчых кіраўнікоў усіх рангаў самімі працоўнымі калектывамі. Летась іх выбрана 80, абсалютная большасць гэта кіраўнікі сярэдняга звяна.

Па-новаму рыхтуюцца сесіі выканкома. Мы адмовіліся ад складання традыцыйнага спісу выступаючых з іх папярэдняй падрыхтоўкай, паставілі так званы «вольны мікрафон», запрашаем на сесіі для вырашэння канкрэтных пытанняў грамадскасць мікрараёнаў, кіраўнікоў дамавых і вулічных саветаў. Загадзя публікуем тэзісы дакладаў і праекты рашэнняў у заводскіх газетах, якія ёсць на вялікіх прадпрыемствах, выкарыстоўваем заводскае радыё, распаўсюджваем запрашэнні з просьбай выступіць са сваёй думкай на сесіі. Які ж вынік? Сесіі сталі праходзіць больш актыўна, у сярэднім на іх выступала па 15—17 чалавек. І што вельмі важна, многія дэпутаты без падрыхтоўкі, але гаварылі сапраўды пра тое, што набалела, што дапаможа справе.

*— Хто цяпер рыхтуе сесіі?*

Асноўны цяжар г[illegible] падрыхтоўцы перанесены з апарату выканкома, як гэта было раней, на пастаянныя камісіі і дэпутацкія групы. Адпаведна Палажэнню аб дэпутацкай групе яны лічацца пастаянна дзеючым рабочым органам Савета.

*— Даводзіцца чуць і чытаць у прэсе, што дэпутаты мала выкарыстоўваюць уласныя правы для вырашэння жыццёвых праблем сваіх выбаршчыкаў. Нават часам бывае, што пастаўлены ў такія ўмовы, калі іх дзейнасць робіцца чыстай фармальнасцю. Як тут мяняецца становішча?*

— Не жаль, бывае і так, як вы апісалі. Але выканком з такімі праявамі не мірыцца. І вось мы ўжо заўважылі, што стала больш актыўна выкарыстоўвацца такая форма, як дэпутацкія запытанні, калі дэпутат ставіць перад кіраўніком ці ўстановай пытанні, на якія тыя абавязаны адказаць і прыняць рашэнне. Тры дэпутаты ў ходзе сесій мінулага года ўнеслі свае запытанні, якія цяпер знаходзяцца ў стадыі выканання, астатнія знаходзяцца на кантролі.

*— Як інфармуюцца выбаршчыкі аб рабоце свайго Савета?*

— Каб данесці бліжэй да рабочых інфармацыю аб дзейнасці выканкома, на прадпрыемствах устанаўліваюцца спецыяльныя інфармацыйныя стэнды.

Перад сесіяй, не пазней, чым за дзесяць дзён да яе, дэпутаты атрымліваюць тэзісы дакладаў, праекты рашэнняў па пытаннях, уключаных у парадак дня сесіі, для абмеркавання іх у калектывах. А затым аб выніках абмеркаванняў інфармуюць выканком.

Актывізуецца работа дэпутатаў у выбарчых акругах і працоўных калектывах. Для гэтага ў раёне створаны пяць дэпутацкіх пакояў, дзе ўстаноўлены тэлефоны, ёсць спецыяльная літаратура.

Станоўча зарэкамендавалі сябе дэпутацкія вытворчыя групы, створаныя на буйных прадпрыемствах. Іх у раёне — восем, і ў іх працуе 133 дэпутаты, у тым ліку чатыры дэпутаты Вярхоўнага Савета рэспублікі і адзін — Вярхоўнага Савета СССР. Сваёй работай такія групы аказваюць дзейсную дапамогу кіраўніцтву прадпрыемстваў і арганізацый у вырашэнні сацыяльных і вытворчых задач.

Створаны і тэрытарыяльныя дэпутацкія групы, у якія ўключаны 166 дэпутатаў. Яны працуюць у цесным кантакце з грамадскасцю непасрэдна па месцы жыхарства. Дэпутаты тэрытарыяльных груп сустракаюцца з выбаршчыкамі, кантралююць гандлёвыя прадпрыемствы, сферу грамадскага харчавання і бытавых паслуг мікрараёна.

*— Такім чынам, дэпутаты знаёмы з грамадскай думкай, запатрабаваннямі, просьбамі і пажаданнямі жыхароў?*

— Безумоўна. У дзейнасці выканкома добра зарэкамендавалі сябе «Дні выбаршчыка», калі дэпутаты робяць справаздачы перад выбаршчыкамі ў працоўных калектывах. На такія справаздачы людзі выпадковыя звычайна не прыходзяць. Збіраюцца тыя, хто сапраўды хацеў бы пачуць ад дэпутата нешта важнае ці звярнуцца да яго са сваёй просьбай. Таксама робяць справаздачы ўсе кіраўнікі аддзелаў і служб выканкома.

*— А наколькі ўважліва ставяцца ў выканкоме да просьб, крытычных заўваг людзей? Іх жа, мабыць, нямала?*

— Так[illegible] нямала і просьб, і крытыч[illegible] заўваг, пакуль, як вядома, [illegible]аша жыццё наладжана далёка не так, як бы нам усім хацелася. Але наш абавязак — не пакідаць без увагі ніводзін зварот у выканком ці да дэпутата.

Выканком, яго аддзелы і службы [illegible]бра разумеюць значэнне т[illegible] важнай крыніцы сацыяльнай інфармацыі, як пісьмовыя і вусныя звароты грамадзян, і нямала робяць для наладжвання дакладнай і аператыўнай работы з імі. Перагледжана арганізацыя справаводства, устаноўлены жорсткі кантроль за выкананнем. Гэтыя пытанні рэгулярна (адзін раз у квартал) разглядае выканком.

Сталі традыцыйнымі прыёмы грамадзян на саміх заводах, ва ўстановах групамі, куды ўваходзяць асобныя раённыя кіраўнікі і члены выканкома. Перад тым як ісці на прыём у калектыў супрацоўнікі выканкома грунтоўна разбіраюць скаргі, просьбы, прапановы, якія паступілі менавіта з таго калектыву, дзе будзе працаваць група. Высвятляецца, як яны вырашаюцца. Загадзя абвяшчаецца аб прыёме: месца, час, састаў групы. Усё гэта дае кіраўніцтву выканкома, яго адказным супрацоўнікам магчымасць шчырай, вольнай размовы з працоўнымі, якую яны выкарыстоўваюць як мага шырэй для высвятлення настрояў людзей, іх патрэб, а таксама для далучэння іх да спраў Савета, інфармацыі аб яго дзейнасці. Пасля кожнага такога прыёму вядзецца апрацоўка атрыманай інфармацыі, каб паскорыць рэагаванне на пастаўленыя пытанні, некаторыя з іх уключыць у праект рашэння чарговай сесіі райсавета.

Цікава і з карысцю праходзяць «Дні адкрытага пісьма». Для прыкладу раскажу пра адзін з іх, які адбыўся ў Доме культуры Мінскага трактарнага завода. За месяц да яго правядзення ў раёне былі вывешаны, спецыяльныя лістоўкі, аб'явы. Змяшчаўся пералік пытанняў для абмеркавання. Заводская газета «Трактар» рэгулярна публікавала пісьмы-водгукі людзей, на іх давалі адказы кіраўнікі выканкома, яго аддзелы і службы, на старонках газеты вялася дыскусія. «Дзень адкрытага пісьма» праходзіў у перапоўненай зале, пры актыўным, зацікаўленым удзеле прысутных. Пасля яго правядзення яшчэ два тыдні ў газетах працягвалася публікацыя рэпартажаў, адказы на пытанні, якія паступілі ў той дзень і патрабавалі вывучэння.

Сёлета ўведзена яшчэ адна новая форма сувязі з выбаршчыкамі пад назвай «Прамая лінія». Аб гэтым шырока інфармавалася насельніцтва. Вопыт паказаў, што гэта вельмі прымальная для насельніцтва форма работы. У загадзя вызначаны час ля тэлефонаў выканкома дзяжураць адказныя работнікі. Спецыяльна для таго, каб да іх звярталіся з пытаннямі тыя, каму цяжка хадзіць: інваліды, хворыя, састарэлыя грамадзяне. Ды і наогул кожны, хто жадае, можа задаць сваё пытанне.

Як бачыце, формы работы існуюць самыя розныя. Але і нявыкарыстаны рэзерв таксама ёсць. Будзем працаваць. А жыццё пакажа, наколькі паспяхова гэта ў нас атрымліваецца.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

## ФОТА З АРХІВА





**«Новыя штрыхі ў жыцці беларусаў» — так коратка можна было б пракаменціраваць гэтыя два здымкі. 1919-ы, усяго два гады мінулі ад тых гістарычных кастрычніцкіх падзей, калі стрэл з «Аўроры» абвясціў прыход новай эры ў жыцці былой царскай імперыі. Яшчэ два гады назад з гэтымі беларускімі мужыкамі не тое, што адзін з кіраўнікоў дзяржавы, нават мясцовы пан не размаўляў бы, як з роўнымі сабе, а тут сам Міхаіл Калінін, Старшыня ВЦВК пытаецца пра жыццё, раіць як лепей яго будаваць па-новаму і сам выслухоўвае заўвагі і парады субяседнікаў. І людзям ёсць што сказаць. Яны адчулі, што ўласны лёс кожнага чалавека, як і лёс усёй краіны, залежыць цяпер толькі ад яго самога. І суботнік у Жлобіне Першага мая 920 года — яшчэ адно пацвярджэнне гэтаму. Такая акцыя добраахвотнай бескарыслівай працы магчыма толькі з боку вольных грамадзян, якія самі вырашаюць, што ім рабіць і як. Яшчэ не скончылася на той час грамадзянская вайна, але парасткі новага ўжо ўзышлі і сталі своеасаблівай гарантыяй будучай перамогі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Міхаіл КАЛІНІН гутарыць з беларускімі сялянамі. 1919 год; Першамайскі суботнік у Жлобіне ў 1920 годзе. Сяляне і рабочыя падносяць дровы да чыгуначнай лініі.**

# ПЕРАМЕНЫ — НЕПАЗБЕЖНЫ

Спачатку хачу закрануць падзеі, якія сёння хвалююць усіх людзей планеты і ўсяляюць у нас надзею. Здаецца, зусім нядаўна мы, не адрываючыся ад экранаў тэлевізараў, сачылі за ходам сустрэчы кіраўнікоў дзвюх вялікіх дзяржаў — СССР і ЗША — у Вашынгтоне. Там справа раззбраення зрушылася з мёртвай кропкі — быў падпісаны Дагавор аб скарачэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці. І вось цяпер новая сустрэча Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова з прэзідэнтам ЗША Рональдам Рэйганам. На гэты раз яна праходзіла ў сталіцы нашай вялікай Радзімы — Маскве. Мы вельмі спадзяёмся, што сустрэча прынясе важкія вынікі і ў народаў зменшыцца страх за сваю будучыню.

Мы жывём удалечыні ад Радзімы, але заўсёды былі і будзем яе патрыётамі. А цяпер і ўвогуле з асаблівай радасцю і гордасцю думаем аб нашым вялікім народзе і аб тым, што самі з'яўляемся хоць маленькай і далёкай, але ўсё ж яго часцінкай. Таму што сёння ўсе народы свету звяртаюць свой позірк на Савецкі Саюз, як на абаронцу жыцця на зямлі. Дзе б ні выступаў Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў, усе палітычныя дзеячы прыслухоўваюцца да яго слоў. Ён заклікае да новага мыслення ў міжнародным жыцці, прапаноўвае канкрэтныя крокі для забеспячэння ўсеагульнай бяспекі. Гаворыць ён аб гэтым проста і ясна для ўсіх, і лідэры капіталістычных дзяржаў вымушаны прымаць яго словы да ўвагі і садзейнічаць яго ініцыятывам у захаванні міру на планеце. Яны разумеюць, што інакш не змогуць апраўдацца перад уласнымі народамі.

На жаль, у Заходнім свеце яшчэ вельмі вялікі ўплыў маюць сілы, якім не даспадобы тое, што змяншаецца напружанасць і паляпшаюцца адносіны паміж дзяржавамі. І проста сэрца крывёю абліваецца, калі даведваешся, якія вялікія сродкі трацяцца на ўзбраенне. Няўжо няма іншых праблем, якія можна было б вырашыць за гэтыя грошы? Так званы «свабодны» Заходні свет літаральна патануў у пазыках. У пазыках урады дзяржаў, ну а просты народ сумелі закабаліць так, што яму ўжо ніколі не вылезці з гэтага ярма. Вось, напрыклад, новы дом прадаецца ў растэрміноўку на 25 год і месячны ўзнос — ад 250 да 350 долараў. Чалавек можа выплачваць гэтыя ўзносы многа год, а потым страчвае работу і плаціць ужо не мае магчымасці. І дом прадаюць другому.

Ці вось яшчэ прыклад з фермерамі. Давялі цану на пшаніцу да 9 долараў за цэнтнер, ячмень купляюць па 5 долараў, а сельскагаспадарчыя машыны і ўгнаенні даражэюць. Пры такім становішчы многія фермеры вымушаны пакідаць зямлю. Хто пазыкі бярэ, той яшчэ трымаецца так-сяк, але гэта ўсё да пары да часу. Застаюцца на зямлі пакуль што і тыя, хто вядзе змешаную гаспадарку, гэта значыць — і зерне вырошчвае, і жывёлу трымае, і хатнюю птушку. Але ўсім гэтым займацца на высокім узроўні вельмі цяжка. А ў тых, хто спецыялізуецца выключна на зерні, даход не пакрывае расходу. Я маю на ўвазе, вядома, дробных і сярэдніх фермераў. Яны разараюцца, пакідаюць зямлю і ідуць у гарады, а іх фермы пераходзяць да багатых суседзяў. А царкоўнікі ўсё гэта апраўдваюць тым, што ўсё ад бога, і пераконваюць нас мірыцца з разарэннем. Яны абяцаюць нам узамен рай на тым свеце. Я ў гэтыя казкі не веру.

Калі ў нас на Радзіме ёсць такія, хто думае, быццам тут райскае жыццё, то няхай павераць мне, старому чалавеку, што гэта не так.

Цяпер у нас тут усім вельмі добра стала знаёмае слова «перабудова», як раней стала знаёмае слова «спадарожнік». Тады яно многіх проста ашаламіла. Усюды можна было чуць: «Глядзі! Яны ўжо лятаюць над нашай галавой без нашага дазволу». Для паноў капіталістаў гэта быў вялікі ўдар. А за слова «перабудова» яны ўхапіліся і вымаўляюць яго часта, свабодна і без акцэнту. Яны нібыта адчуваюць сябе пераможцамі. Глядзіце, маўляў, Масква ўжо падсоўваецца бліжэй да нашага ладу жыцця. Праўда, мы з такімі дыскусій не разводзім. Няма сэнсу. Час пакажа, што зробіць перабудова. Але я ад душы падтрымліваю рашэнне Савецкага ўраду пачаць перабудову ва ўсіх галінах жыцця, бо бачу, што быў правы, дзелячыся некалі сваімі думкамі з роднымі ў Беларусі. Прыязджаючы на Радзіму, а быў я там шэсць разоў, я пераканаўся, што перабудова ў савецкім жыцці, асабліва ў эканамічных адносінах, непазбежная. У адваротным выпадку не стане ніякай магчымасці дабіцца дабрабыту для народа. Я не дасведчаны ў пытаннях прамысловасці, але, што тычыцца сельскай гаспадаркі, то тут у падказках я не маю патрэбы. За час маіх наведванняў Радзімы ў мяне накапілася столькі ўражанняў і заўваг па сельскай гаспадарцы, што можна было б напісаць кнігу. Але не буду ўдавацца ў падрабязнасці, скажу толькі: мне зусім не абыякава, што адбываецца на роднай старонцы. Усякі ваш поспех надае мне тут, на чужыне, бадзёрасці, але і ўсякая халатнасць мяне таксама трывожыць. Я не гавару аб простых савецкіх людзях, сумленных працаўніках, якія даказалі сваю адданасць справе Леніна ў перыяд індустрыялізацыі, на франтах Вялікай Айчыннай вайны, а потым у аднаўленні мірнага жыцця. Але вось некаторыя кіруючыя работнікі, добра што іх меншасць, па-мойму, з цягам часу зусім забыліся, што яны савецкія людзі. Яны так уладкаваліся, што ім непатрэбен ніякі іншы рай. З аднаго боку, з дапамогай «блата» (раней я і не ведаў, што такое слова існуе і што яно азначае), з другога, выкарыстоўваючы сваё становішча і ўладу, яны сталі жыць, як паны і памешчыкі. І калі б Уладзімір Ільіч змог убачыць, як гэтыя чыноўнікі знявечылі яго вучэнне, ён бы не паверыў гэтаму. Я ж сам бачыў, як сынкі і дочкі начальнікаў раз'язджалі па сваіх справах і для забаў на дзяржаўных машынах, скарыстоўваючы дзяржаўны бензін і вадзіцеля, якому зарплату плаціць таксама дзяржава. На гэтыя непарадкі звярнуў увагу яшчэ таварыш Андропаў, але жыццё, на жаль, не дало яму магчымасці поўнасцю іх выкараніць.

Трэба ўсямерна дапамагаць Міхаілу Сяргеевічу ў перабудове, каб цалкам вярнуць краіну на ленінскі шлях. Нашу ж Радзіму, як гаворыцца, пешкі не прайсці, аршынам доўгім не змераць. Багацці яе вялізныя, і народ таленавіты і працавіты. Трэба толькі, каб былі сумленныя і справядлівыя адносіны кожнага да сваёй справы, і тады дабрабыт прыйдзе ў кожны дом.

Мы бачым, што перабудова ўжо дае пэўныя вынікі. Вярнуся зноў да сельскай гаспадаркі. Асабліва мяне радуе, што вялікая ўвага ўдзяляецца зацікаўленасці сялян у выніках сваёй працы. Вельмі добра, што вы пачалі рашучую барацьбу з ашуканцамі і бюракратамі — ад іх карысці ніякай, а шкоды многа. Нарыхтоўваюць на паперы кармы, збіраюць ураджаі, а сялянам за іх даводзіцца працаваць. Калгаснік, ён сам ведае, як яму весці гаспадарку, ён не дурнейшы за начальнікаў.

Мне прыемна, што Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў на з'ездзе калгаснікаў многа ўвагі ўдзяліў пытанням паляпшэння жыцця сялян. Думаю, што калі гэтыя пытанні ў хуткім часе будуць вырашаны, то ўсе вясковыя жыхары ў СССР зажывуць не горш, чым жывуць цяпер у калгасе, які ўзначальвае славуты старшыня Бядуля. Калгас гэты, яго ўгоддзі знаёмыя мне як свае пяць пальцаў. Я нямала гутарыў з калгаснікамі. Ужо многа год назад яны былі задаволены сваім жыццём і сваім старшынёй. А ўся справа ў тым, што Бядуля не толькі аб планавых паказчыках думае, але яму не абыякавае і жыццё калгаснікаў. Ён знаходзіць час зазірнуць, як гаворыцца, і сюды і туды, асабіста даведацца, хто ў чым мае патрэбу. Неяк я жартам спытаў калгаснікаў, што яны будуць рабіць, калі яго ў іх забяруць. Дык яны так абурыліся і ў адзін голас адказалі: «Ні за што не аддадзім!» Будзем спадзявацца, што перабудова і іншых навучыць жыць па прыкладу Героя працы таварыша Бядулі.

Магчыма, вы будзеце смяяцца з маіх заўваг, але мне, старому чалавеку, так здаецца. Да ўсіх вас я адношуся як да родных і блізкіх, хаця ўжо даўно жыву далёка ад вас на чужой зямлі.

Хачу аднаго, каб наша Радзіма была самай моцнай і прыгожай.

**Аляксей ГРЫЦУК.**

Канада.

# СПРАВЯДЛІВАСЦЬ ПЕРАМОЖА

Паважаная рэдакцыя! Неўзабаве мы збіраемся наведаць Радзіму і пабываць у сваіх родных, якіх вы дапамаглі знайсці маёй жонцы Вользе ў час яе паездкі ў СССР у 1980 годзе. За гэта мы часта ўспамінаем вас добрым словам і хочам яшчэ раз падзякаваць за дапамогу. Вашы газеты і брашуры мы атрымліваем і ўважліва чытаем. Вельмі цікава ведаць, чым жыве Радзіма, што там цяпер адбываецца. З асаблівай цікавасцю і ўвагай сочым за ўсімі выступленнямі Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Пытанні, якія ён узнімае, вельмі важныя для савецкай дзяржавы. Ён гаворыць аб адносінах да культу асобы, аб публічнасці, аб розных аспектах жыцця савецкага народа, аб пераменах у сацыялістычнай гаспадарцы, якія вы, а за вамі і ўвесь свет, назвалі перабудовай. Вядома, перабудова не здзейсніцца за адзін дзень, а зойме пэўны час. Але галоўнае, каб яна была паспяховай, і я думаю, што так яно і будзе. Таму што за М. С. Гарбачовым пайшла абсалютная большасць народа. Я ведаю аб гэтым з пісем маіх сваякоў, сярод якіх многа маладых камуністаў, чым я ганаруся. Несправядлівасць — гэта старая хвароба бюракратаў, якіх пакуль яшчэ нямала ў нас на Радзіме. З-за іх простыя людзі вельмі часта не могуць дабіцца таго, што гарантавана законам і Канстытуцыяй краіны, і трацяць веру ў справядлівасць. Такога быць не павінна. Справядлівасць і публічнасць пераможуць.

Цяпер некалькі слоў аб сустрэчы ў вярхах Генеральнага сакратара ЦК КПСС Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова і прэзідэнта ЗША Рональда Рэйгана. Мільёны вачэй у нашай краіне былі накіраваны да тэлевізараў. Усе ўважліва глядзелі рэпартажы аб сустрэчы і лавілі кожнае слова. Калі ўбачылі абмен Ратыфікацыйнымі граматамі Дагавора аб скарачэнні ракет сярэдняй і меншай дальнасці і атрымалі надзею, што раззбраенне будзе працягвацца і надалей, тады змаглі спакойна ўздыхнуць. Народы заўсёды змогуць дагаварыцца адзін з адным.

Рады буду ў хуткім часе сустрэцца з вамі на роднай беларускай зямлі.

**Афанасій БАРАВОЙ.**

Канада.

**Да нас у рэдакцыю прыходзіць многа пісем чытачоў з розных краін. Радуе тое, што суайчыннікі, хто жыве ўдалечыні ад Радзімы, з вялікім інтарэсам сочаць за жыццём свайго народа, за ўсімі падзеямі, якія адбываюцца ў нашай краіне. Цяпер усе савецкія людзі рыхтуюцца да XIX партыйнай канферэнцыі, якая павінна замацаваць вынікі перабудовы, што адбываецца ў палітычнай, эканамічнай, сацыяльнай і культурнай сферах, намечаць шляхі далейшага развіцця нашага грамадства. Усе мы зацікаўлены, каб перабудова і дэмакратызацыя ў нашай краіне працягваліся і сталі незваротнымі. Аб гэтым пішуць і нашы чытачы. Сёння мы пачынаем публікаваць пісьмы замежных землякоў, якія закранаюць пытанні перабудовы. Спадзяемся, што яны вас зацікавяць і падахвоцяць выказаць свае думкі наконт гэтага, свой пункт погляду на перабудову. Напішыце нам, як адносяцца да працэсаў, якія адбываюцца цяпер у Савецкім Саюзе, у вашай краіне, што думаецца пра іх асабіста вы. Чакаем вашых пісем.**

# ГЭТА ДЛЯ ЎСІХ

Хачу напісаць, што я асабіста думаю аб перабудове ў Савецкім Саюзе. Бо да гэтага пытання сёння праяўляецца вельмі вялікі інтарэс не толькі ў нас на Радзіме, але і ва ўсіх іншых краінах.

Да мяне дамоў у Бельгіі прыходзіў рэпарцёр адной з бельгійскіх газет і пытаўся, ці праўда, што ў Савецкім Саюзе ідзе перабудова і як яна можа адбіцца на яго адносінах з іншымі краінамі, у прыватнасці, еўрапейскімі. Я не вялікі палітык, але расказала тое, што ведаю з паездак на Радзіму, з вашых газет і радыёперадач. Расказала яму аб цяжкай гісторыі савецкага народа, аб тым, якіх вялікіх поспехаў змог ён дасягнуць, за кароткі тэрмін ператварыўшы нашу Радзіму ў магутную дзяржаву з сучаснай эканомікай, з высокім узроўнем навукі і культуры. Я як магла растлумачыла, што наша Радзіма першая будавала сацыялізм, і, вядома, на гэтым шляху дапускаліся і памылкі, якія іншы раз былі непапраўнымі, што не ўсе людзі яшчэ маюць неабходны ўзровень свядомасці, каб ставіць грамадскія інтарэсы вышэй асабістых. Такія грамадзяне, знаходзячыся на кіруючых пасадах, больш думаюць не аб развіцці народнай гаспадаркі, а аб тым, як лепш уладкаваць сабе жыццё. Яшчэ я сказала, што Камуністычная партыя Савецкага Саюза, увесь народ добра бачаць і разумеюць гэтыя недахопы і пачалі супраць іх рашучую і бескампрамісную барацьбу. Вось гэта і ёсць перабудова. У яе нямала праціўнікаў, але прыхільнікаў у многа разоў больш.

Што тычыцца адносін Савецкага Саюза з іншымі краінамі, то я сказала, што тут палітыка нашай Радзімы была і застаецца нязменнай — яна хоча міру на ўсёй планеце. А вось сваіх заходніх партнёраў Савецкі Саюз заклікае да перабудовы ў міжнародных адносінах, тлумачыць ім, што ў ядзерны век неабходна і новае палітычнае мысленне, што ніякія рознагалоссі сёння ўжо нельга вырашаць з пазіцыі сілы, паколькі гэта можа абярнуцца непапраўнай трагедыяй для ўсяго чалавецтва.

Рэпарцёр таксама спытаў мяне, як я сябе адчуваю, пражыўшы столькі год удалечыні ад Радзімы, і я сказала, што Бельгія многае для мяне зрабіла, тут мой дом, сям'я, але сэрца маё і думкі ў Савецкім Саюзе. Маё інтэрв'ю апублікавалі ў бельгійскай газеце пад буйным загалоўкам. Яго прачытала ўся Бельгія. І я была рада, што рэпарцёр напісаў усё, як я яму гаварыла, таму што гэта не якія-небудзь выдумкі, а праўда пра маю Радзіму, якую я добра ведаю. У нашых газетах цяпер многа пішуць пра перабудову ў Савецкім Саюзе, публікуюць выступленні Міхаіла Сяргеевіча Гарбачова. Я купляю і чытаю газеты кожны дзень. Так што ад палітыкі не адстаю. Нядаўна тут выйшла на фламандскай мове кніга М. С. Гарбачова пра перабудову. Прачытала я яе з вялікай увагай і цікавасцю. Усё правільна. Але хачу сказаць толькі адно, што наш урад павінен быць асцярожным. Таму што ў кожнай свабодзе ёсць межы. Чалавек можа гаварыць, што хоча, але каб гэтыя выступленні не былі шкодныя для сацыялістычнага ладу. А то я бачу, што ў Савецкім Саюзе цяпер занадта вялікая свабода, і гэта спрабуюць выкарыстаць людзі з нячыстымі мэтамі. Я ведаю, што наш народ рады перабудове. Па-мойму, цяпер усе павінны больш і лепш працаваць, каб яна перамагла. Бо робіцца ж гэта не для таварыша Гарбачова, а для ўсіх савецкіх людзей.

**Ефрасіння ІЛЬІНА.**

Бельгія.

**АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю**

# З ЧЫМ НА АЛІМПІЯДУ?

**17 верасня ў Сеуле адкрыюцца XXIV летнія Гульні. Гэта будзе дзевятая па ліку Алімпіяда, у якой прымуць удзел савецкія спартсмены. Пакуль ідзе напружаная барацьба за права трапіць у зборную каманду краіны. Сярод кандыдатаў на паездку на Алімпіяду нямала беларускіх спартсменаў.**

**Хто яны? Чым заслужылі высокі гонар стаць алімпійцамі? На гэтыя і іншыя пытанні, звязаныя з падрыхтоўкай да Алімпіяды, наш карэспандэнт папрасіў адказаць старшыню Дзяржаўнага камітэта БССР па фізічнай культуры і спорту Валянціна САЗАНОВІЧА.**

*Крыху больш за дзевяноста дзён засталося да адкрыцця XXIV летніх Алімпійскіх гульняў. Увесь свет з вялікай увагай будзе сачыць за спартыўнымі падзеямі. Вядома, мы маем права чакаць ад нашых спартсменаў выдатных вынікаў, рэкордаў, перамог...*

— Цвёрда ўпэўнены, што ў спорце няма больш высокага звання, чым алімпійскі чэмпіён, няма вышэй узнагароды за алімпійскі медаль. Да іх спартсмен ідзе чатыры доўгія гады, якія патрабуюць трэніровак, калі хочаце, самаадданасці, ахвяр, вялікіх фізічных сіл. Спадзяюся, што наша каманда



алімпійцаў поўнасцю гатова да такіх выпрабаванняў.

Ці можа спадзявацца на перамогу савецкая каманда?

Вопыт Гульняў паказвае, што зборная Савецкага Саюза нязменна знаходзіцца ў ліку лідэраў. У неафіцыйным заліку яна заўжды апярэджвае сваіх галоўных канкурэнтаў — спартсменаў ЗША і ГДР. Для параўнання прыгадаем Гульні ў Манрэалі. Там наша каманда заваявала 47 залатых, 43 сярэбраныя і 35 бронзавых медалёў. У зборнай жа ГДР адпаведна: 40, 25 і 26, а ў каманды ЗША — 34, 35 і 25 медалёў.

Нават самы сучасны камп'ютэр можа памыліцца, калі захоча зрабіць нейкі прагноз наконт пераможцаў маючай адбыцца «Алімпіяды-88». І ўсё ж асмелюся сцвярджаць, што змяненняў сярод мацнейшых не адбудзецца і на гэты раз.

І вось, мне здаецца, чаму. На сёлетніх перадалімпійскіх спаборніцтвах мы ўбачылі практычна ўсіх кандыдатаў на паездку ў Сеул. Скажам, моцныя спартсмены ГДР у плаванні—гэта неаспрэчна. Але ж і ў нас ёсць свае «каронныя» віды спорту (і такіх намнога больш!). Вазьміце адну толькі барацьбу: вольную, класічную... Каб трэба было, то выставілі б не адну каманду чэмпіёнаў. Вядома, ніхто не застрахаваны ад сюрпрызаў. Толькі, як гаворыцца, моцны — заўжды моцны.

У антычныя часы казалі: «Няма нічога больш высакароднага за сонца, якое дае гэтулькі святла і цяпла. Няма больш велічнага за Алімпійскія гульні». Гэта—грандыёзнае, яркае і прыцягальнае відовішча. Хіба ж не прыклад для нас «Алімпіяда-80», якая прайшла ў Маскве!

І, што вельмі важна, высакародныя ідэі Алімпіяд нясуць людзям планеты дух міру і дружбы, разрадкі і прагрэсу.

*— Савецкая спартыўная дэлегацыя ў Сеуле будзе самай шматлікай. Ці не маглі б вы назваць колькасць кандыдатаў-алімпійцаў ад нашай рэспублікі?*

— Колькасць кандыдатаў самая вялікая за ўсе гады: восемдзесят. Але гэта не значыць, што ўсе яны паедуць на Алімпіяду. Апошнія міжнародныя і ўсесаюзныя спаборніцтвы назавуць дастойных...

*— Прабачце, хачу дапоўніць сваё пытанне: але ж ёсць ужо і «цвёрдыя» кандыдаты, якія на працягу многіх гадоў паказваюць высокія вынікі, выступаюць стабільна...*

— Вядома, ёсць. І я лічу, што толькі нейкая выпадковасць не дазволіць стаць алімпійцам стралку Ігару Басінскаму. Штосьці не прыпомню спаборніцтва, дзе б ён не займаў першага месца ці не ўстанаўліваў сусветныя рэкорды. Вазьміце сёлетні чэмпіянат Еўропы, які праходзіў у Нарвегіі. Спачатку Ігар дабіўся сусветнага рэкорду ў стральбе з пісталетам у асабістым заліку, а пасля садзейнічаў устанаўленню вышэйшага дасягнення ў камандных спаборніцтвах.

З вялікай павагай стаўлюся да цяжкаатлета Леаніда Тараненкі. На пачатку сваёй спартыўнай кар'еры дамогся многага: чэмпіён свету сярод юнакоў, сусветны рэкардсмен, нарэшце — чэмпіён «Алімпіяды-80»! А пасля пачаліся няўдачы. Знізіліся вынікі, даймалі траўмы. На яго, як кажуць, махнулі рукой трэнеры зборнай краіны, ды і ў нас у Беларусі знайшліся «дарадцы», якія раілі Леаніду пакінуць вялікі спорт. Але ў Тараненкі быў яго трэнер Іван Лагвіновіч, які верыў у свайго выхаванца, нарэшце, знайшлася сіла волі ў спартсмена даказаць, што ён яшчэ на многае здольны. На апошнім першынстве кантынента ў Вялікабрытаніі Тараненка паказвае проста фенаменальны вынік: 462,5 кілаграма! Менавіта такія спартсмены і патрэбны алімпійскай зборнай СССР.

А наш фехтавальшчык Аляксандр Раманькоў! Шматразовы чэмпіён Алімпійскіх гульняў, свету... І справа зусім не ў тытулах. Звярніце ўвагу на гады. Аляксандру—35. А нядаўна на розыгрышы Кубка свету фехтаваў так, што ні адзін спартсмен не мог справіцца з ім. Вось на каго ўскладваем надзеі ў Сеуле. Каму, калі не Раманькову, які шмат гадоў з'яўляецца капітанам каманды СССР, весці да перамог сваіх маладых таварышаў па зборнай краіны.

Ёсць, нарэшце, і іншыя нашы надзеі на Гульнях у Сеуле: гімнастка Марына Лобач, тэнісістка Наталля Зверава, лёгкаатлеткі Алена Бялеўская, Эльвіра Зверава... Бадай, усіх і не пералічыш...

*— Мяне ў Дзяржкамітэце пазнаёмілі з магчымымі алімпійцамі. У гэтым спісе сапраўды спартсмены высокага класа. Відаць, што перабудова закранула і спорт. На гэты раз удалося пазбавіцца такіх негатыўных з'яў, як уключэнне ў спіс «па знаёмству», не адбылося дзялення спартсменаў па «пажаданых» і «не пажаданых» і гэтак далей. Але ж, Валянцін Пятровіч, выклікае здзіўленне, чаму сярод кандыдатаў няма праслаўленага алімпійскага чэмпіёна па скачках у ваду Аляксандра Партнова і яшчэ некаторых?*

— Правільна заўважылі. Менавіта дзякуючы дэмакратызацыі, прынцыповасці, што ў апошні час закранулі спорт, мы крытычна падышлі да адбору кандыдатаў у алімпійцы.

Саша Партноў. Мы на яго ўскладвалі вялікія надзеі. Калі хочаце, то бачылі ў ім на маючых адбыцца ў Сеуле Гульнях патэнцыяльнага чэмпіёна. А ён нас, можна лічыць, падвёў. Летась за неспартыўныя паводзіны яго вывелі са зборнай каманды СССР па скачках у ваду.

Крыўдна, але што заслужыў, тое і атрымаў. Зусім свежы прыклад. За правіннасць, якая ганьбуе званне савецкага спартсмена, дыскваліфікаваны лёгкаатлет—пераможца зімовага чэмпіянату СССР у трайным скачку гамяльчанін Аляксандр Лявонаў.

*— А ці не атрымліваецца так: спатыкнуўся спартсмен і, як кажуць,—галава з плячэй?*

— Што вы! І Дзяржкамітэт, і трэнеры заўжды прыходзяць на дапамогу: дзе падкажуць, дзе папраўляць... Так мы зрабілі ў адносінах да Яўгена Місюлі, Ігара Мятліцкага, Дзмітрыя Маліноўскага і іншых. Стараемся вярнуць іх у зборныя каманды краіны. І небеспаспяхова...

*— Вы, Валянцін Пятровіч, назвалі лічбу восемдзесят — кандыдатаў-алімпійцаў. Лічба ўнушальная. Значыць, прадстаўнікі Беларусі, калі яны трапяць у галоўную каманду краіны на паездку ў Сеул, выступяць амаль ва ўсіх відах спорту?*

— На жаль, не хацелася б адказваць вам на гэта пытанне на мажорнай ноце. Ёсць праблемы, і немалыя. Нас на сённяшні дзень задавальняе (пакуль толькі—задавальняе!) падрыхтоўка гімнастак (спартыўная і мастацкая), лёгкаатлетаў, барцоў класічнага стылю, цяжкаатлетаў, стралкоў, спартсменаў большасці гульневых відаў.

Затое вазьміце бокс, плаванне, конны спорт, фехтаванне... Сур'ёзна адстаём ад іншых рэспублік.

*— Можа тут трэнерскія пралікі?*

— І трэнерскія. Хаця не магу не назваць цэлую кагорту выдатных спецыялістаў, якія падрыхтавалі нямала кандыдатаў у зборную алімпійскую каманду СССР: І. Лагвіновіча, С. Мірановіча, М. Зверава, С. Халіпскага, П. Савіцкага і іншых.

Мяркую, што прыйшоў час прад'яўляць больш высокія патрабаванні да падрыхтоўкі спецыялістаў у вучэбных установах рэспублікі, больш крытычна ацэньваць работу фізкультурных арганізацый, якія нярэдка дзеляць віды спорту на «сынкоў» і «пасынкаў».

Менавіта гэтыя абставіны ў апошні час самым сур'ёзным чынам абмяркоўваліся ў Дзяржкамітэце, намечаны шляхі далейшага развіцця фізкультуры і спорту, падрыхтоўкі спартсменаў высокага класа.

*— У мінулыя гады стала добрай традыцыяй—праводзіць заключную перадалімпійскую падрыхтоўку шэрагу зборных каманд СССР на лепшых базах Беларусі. Ці будзе парушана гэта традыцыя цяпер?*

— Нашы спартыўныя базы з сапраўднай беларускай гасціннасцю здабылі высокае прызнанне і папулярнасць. І не толькі ў нашай краіне. За вопытам да нас едуць дэлегацыі з-за мяжы. Вось і нядаўна ў нашай рэспубліцы пабывалі спецыялісты і спартсмены з В'етнама, Афганістана і іншых краін.

У гэтыя дні спарткомплексы Стайкі і Раўбічы, мінскі Палац спорту, рэспубліканская конна-спартыўная база ў Ратамцы прымуць галоўныя каманды краіны па вольнай барацьбе, спартыўнай і мастацкай гімнастыцы, валейболу, лёгкай атлетыцы, коннаму і веласіпеднаму спорту, веславанню на байдарках і каноэ. Усё гатова да прыёму алімпійцаў. Цікавяць яны нас не толькі як прадстаўнікі краіны на Гульнях у Сеуле. Беларускія спартсмены шмат чаму навучацца ў алімпійцаў на сумесных трэніроўках, змогуць праверыць сябе ў таварыскіх спаборніцтвах са славутымі спартсменамі.

*— У заключэнне нашай гутаркі хочацца пажадаць савецкім спартсменам паспяховых стартаў у Сеуле. А вас, Валянцін Пятровіч, папрасіць яшчэ раз сустрэцца на старонках «Голасу Радзімы», падвесці вынікі выступленняў прадстаўнікоў Беларусі на XXIV летняй Алімпіядзе.*

— З задавальненнем прымаю гэту прапанову. Пасланцы беларускага спорту на Алімпійскіх гульнях заўсёды вызначаліся імкненнем цалкам аддаць сябе спартыўнай барацьбе, высакародствам, сумленнем, павагай да супернікаў. Як і ўсім савецкім алімпійцам, ім уласціва пачуццё патрыятызму, любві да Радзімы. І я веру, што гэтыя выдатныя рысы нашых алімпійцаў будуць захаваны і памножаны.

Гутарку вёў
**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**



**НА ЗДЫМКАХ: у кабінеце функцыянальнай дыягностыкі. Урач Барыс ФІЛОНАЎ праводзіць абследаванне спартсмена; адзін з куткоў спарткомплексу Стайкі.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**





**У першую нядзелю чэрвеня ў нашай краіне ў месцах, звязаных з жыццём і дзейнасцю вялікага рускага паэта Аляксандра Сяргеевіча Пушкіна, штогод праходзяць пушкінскія святы. З гэтага года па праграме «Пушкін у сэрцах пакаленняў», распрацаванай Савецкім фондам культуры, такія ўрачыстасці сталі праводзіцца і ў Магілёве.**

**Пушкін наведаў Магілёў у 1824 годзе, калі накіроўваўся ў сяло Міхайлаўскае Пскоўскай губерні.**

**У чэрвеньскую нядзелю ў Пушкінскім скверы каля кінатэатра «Космас» у Магілёве прайшлі пушкінскія паэтычныя чытанні, гучалі рамансы на словы вядомага паэта, музычныя творы. Працавалі выстаўкі мастакоў, філатэлістаў, былі арганізаваны літаратурныя віктарыны, кніжны гандаль.**

**НА ЗДЫМКАХ: ля помніка А. С. Пушкіну заўсёды жывыя кветкі; старшыня Беларускага рэспубліканскага аддзялення Савецкага фонду культуры пісьменнік Іван ЧЫГРЫНАЎ з моладдзю горада Магілёва ў час пушкінскіх чытанняў.**

**Фота С. ЖАЛУДОВІЧА.**

## «КРУГЛЫ СТОЛ» «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

# УЛАДАРКА НЕПАЗНАНЫХ СКАРБАЎ

**Са студзеня 1988 года ў рэспубліцы пачаў выходзіць часопіс «Беларуская мова і літаратура ў школе». Чытачы ўжо атрымалі пяць нумароў. Нягледзячы на тое, што часопіс гэты непасрэдна прызначаны для выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, ён зацікавіў больш шырокае кола чытачоў, прыцягнуў увагу грамадскасці. Мы запрасілі за «круглы стол» у нашу рэдакцыю галоўнага рэдактара часопіса Міхася ШАВЫРКІНА, вядомага вучонага-мовазнаўцу і пісьменніка Фёдара ЯНКОЎСКАГА, настаўніцу-метадыстку 140-й мінскай школы Вольгу КУЗЬМІЧ і васьмікласніцу 29-й мінскай школы Алену НЯХАЙ папрасілі падзяліцца думкамі наконт часопіса.**

**М. ШАВЫРКІН:**

— Хачу зачытаць надрукаваны ў першым нумары нашага часопіса ліст пісьменніка Ніла Гілевіча. «Новае перыядычнае выданне—газета або часопіс—для грамадства падзея заўсёды радасная, бо гэта значыць, што з'явілася яшчэ адна публічная трыбуна для размовы ўголас, для абмену думкамі, клопатамі, меркаваннямі, для спрэчак і дыскусій аб тым, што хвалюе, што набалела, што патрабуе ўвагі шырокіх колаў грамадскасці.

...Хай усюды на Беларусі адчуецца яго (часопіса.— **М. Ш.**) клопат пра Матчына слова, пра яго месца і ролю ў інтэрнацыянальна-патрыятычным, эстэтычным і маральным выхаванні моладзі, пра хараство і сілу твораў нацыянальнай мастацкай літаратуры. Хай ён кожнай сваёй старонкай напамінае, што шлях беларускай літаратурнай мовы і краснага пісьменства на нашай зямлі пазначаны імёнамі Кірылы Тураўскага і Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Міколы Гусоўскага, Васіля Цяпінскага, Сімяона Полацкага, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і Францішка Багушэвіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа, Максіма Багдановіча і Максіма Гарэцкага. Толькі помнячы пра гэтую вялікую гісторыю развіцця асветы і духоўнай культуры на Беларусі, толькі ў вернасці гэтай традыцыі часопіс зможа паспяхова вырашыць усе канкрэтныя сённяшнія задачы, якія перад ім пастаўлены».

Вельмі слушныя словы. Распрацоўваючы стратэгічную лінію дзейнасці часопіса, мы, супрацоўнікі, і яго рэдакцыйная калегія, куды ўваходзяць аўтарытэтныя прадстаўнікі нашай навукі і культуры, зыходзілі перш за ўсё з таго, што гэтае выданне павінна спрыяць павышэнню якасці выкладання роднай мовы і літаратуры. І не толькі ў сярэдняй школе, а і ў вышэйшай, і ў прафтэхвучылішчах.

**В. КУЗЬМІЧ:**

— Як выкладчыца беларускай мовы і літаратуры я, можа, глыбей за іншых ведаю тую сітуацыю, якая склалася сёння ў рэспубліцы з роднай мовай. Нігілістычныя адносіны некаторай часткі насельніцтва да нацыянальнай культуры, кепскае веданне сваёй мовы, а часта і поўны касмапалітызм,— вынік не толькі аб'ектыўных гістарычных прычын, але і неразумнай палітыкі ў галіне адукацыі.

На хвалі дэмакратычных перамен, што зараз адбываюцца ў нашым грамадстве, даволі востра п[illegible]ала пытанне з роднай м[illegible]й. Яно, як мы ведаем, шырока абмяркоўвалася грамадскасцю. Але дырэктыўнымі мерамі, мне здаецца, мала што можна змяніць. Патрэбна працяглая і карпатлівая работа як непасрэдна з боку тых, хто займаецца выхаваннем і адукацыяй, так і з боку ўсяго грамадства, усіх яго інстытутаў.

Многае, я лічу, непасрэдна залежыць і ад самога настаўніка. Новы часопіс—добры яму памочнік і дарадца. Я прачытваю яго ад вокладкі да вокладкі. Вельмі карысныя метадычныя матэрыялы. Цікава было прачытаць думкі сваіх калег, пазнаёміцца з артыкуламі вядучых беларускіх мовазнаўцаў, пісьменнікаў. Наогул, я скарыстоўваю на ўроку многае з таго, што друкуецца ў часопісе як па пытаннях культуры мовы, так і ўвогуле па гісторыі беларускай культуры.

Прыемна, што ўжо з першых месяцаў існавання наш часопіс набывае свой твар. Я хачу скарыстаць прысутнасць тут рэдактара гэтага выдання і пацікавіцца перспектыўнымі планамі работы, задумкамі.

**М. ШАВЫРКІН:**

— Наш часопіс навукова-метадычны. І гэта абумоўлівае яго характар і змест. Цэнтральнае месца ў ім займаюць матэрыялы па беларускай мове і літаратуры. Будзем асвятляць праблемы лінгвістыкі і літаратуразнаўства, тэматычную і жанравую разнастайнасць творчасці пісьменнікаў, вывучэнне асобных твораў, жанраў, прадугледжаных праграмай. У цэнтры ўвагі таксама—праблемы развіцця нацыянальнай мовы ва ўмовах рэальна існуючага двухмоўя, пытанні білінгвізму, беларуская мова ў сістэме славянскіх моў, яе аўтарытэт на міжнародным узроўні.

Пастаянна будуць змяшчацца артыкулы метадыстаў, якія абагульняюць вопыт лепшых педагогаў рэспублікі. Дадам, што часопіс дасць магчымасць выказацца прыхільнікам розных поглядаў. Таму з'явяцца матэрыялы вострыя, дыскусійнага характару. Але ў адрозненне ад іншых педагагічных выданняў мы не збіраемся абмяжоўваць тэматыку свайго часопіса. Так, з самага пачатку мы ўзялі курс на тое, каб даваць разнастайныя матэрыялы па нацыянальнай культуры і яе сувязях з культурамі іншых народаў. На наш погляд, гэта вельмі важна для выхавання пачуцця самасвядомасці падрастаючага чалавека, разумення таго, што ён з'яўляецца пераемнікам багатай духоўнай спадчыны свайго народа.

Будзем змяшчаць на старонках часопіса матэрыялы, якія дапамагаюць развіваць творчыя здольнасці вучняў, іх уменне пісаць. Шукаем варыянты заняткаў па славеснасці.

Збіраемся даваць каляровыя ўкладкі з рэпрадукцыямі твораў вядомых мастакоў... Каб зрабіць часопіс больш зручным для карыстання, «чытабельным», мяркуем у далейшым метадычную частку выдаваць асобным дадаткам. Дадатак гэты, прызначаны для вучняў сярэдніх і старэйшых класаў, а таксама для дашкольнікаў, будзе выходзіць з асноўнай часткай па чарзе. Думаю, што гэта зробіць выданне больш папулярным.

**Ф. ЯНКОЎСКІ:**

— Добра, што ў нас з'явіўся такі часопіс. Ён прыдасца настаўніцтву ў справе выхавання падрастаючага пакалення. На маю думку, ні адзін нумар не павінен з'яўляцца без публікацый па культуры мовы. Гэта трэба не толькі вучням, але і ўсім нам. Адначасова самі публікацыі нашых паважаных навукоўцаў, настаўнікаў нярэдка ўяўляюць сабой прыклад казённай, беднай мовы з наборам старых газетных штампаў. Гэта цалкам перакрэслівае ўсе добрыя і высакародныя намеры часопіса. Выхоўваць трэба ўласным прыкладам. Мяркую, што варта даваць кансультацыі па граматыцы і фанетыцы, а прыклады браць абавязкова з твораў высо[illegible] мастацкай якасці, узор[illegible].

**А. НЯХАЙ:**

— Мае аднакласнікі выкарыстоўваюць новы часопіс для падрыхтоўкі школьных заданняў. Але мы сутыкнуліся з [illegible]м, што гэта выданне даво[illegible]жка купіць у кіёсках Саюздруку. Няма яго і ў гарадскіх бібліятэках. Толькі ў школьных. А колькасць экземпляраў часопіса там абмежаваная. Скажам, у першым нумары былі змешчаны вельмі цікавыя матэрыялы, прысвечаныя 150-годдзю з дня нараджэння К. Каліноўскага. Мы вымушаны былі па чарзе карыстацца адным экземплярам. Гэта нязручна. У апошніх нумарах часопіса з'явілася рубрыка «Зваротная сувязь: чытач—часопіс—чытач». Мы збіраемся напісаць ліст у рэдакцыю з некаторымі прапановамі. Напрыклад, многія мае аднакласнікі на канікулах адпачываюць у вёсцы. А вяртаючыся адтуль, прывозяць з сабой незнаёмыя словы, якімі карыстаюцца жыхары той ці іншай мясцовасці. Настаўніца сказала нам, што гэта дыялектныя словы. У прынцыпе мы маглі б збіраць такія словы жывой народнай мовы, розныя прыказкі, прымаўкі... Тым больш, што некаторыя аднакласнікі мараць аб прафесіі настаўніка.

**М. ШАВЫРКІН:**

— Прыемна, што ў нас паступова з'яўляецца ўсё больш чытачоў нераўнадушных, заклапочаных развіццём роднай культуры. Мы атрымліваем нямала пісьмаў з прапановамі і пажаданнямі. Улічваючы іх, ужо ў бліжэйшых нумарах маем намер друкаваць агляды літаратуры, распачнём факультатывы па сучаснай прозе, паэзіі.

Гасцямі часопіса стануць вядомыя пісьменнікі, мастакі, кампазітары, рэжысёры... У нас завязаліся добрыя адносіны з Беларускім фондам культуры. Спадзяёмся, што гэта таксама дасць свой плён.

**Матэрыялы «круглага стала» падрыхтавала Т. АНТОНАВА.**

## ГОСЦЬ З БРАТНЯЙ КРАІНЫ

Беларусь наведаў польскі гісторык і пісьменнік Марцэлі Косман. У 1979 годзе ў выдавецтве «Асолінэум» выйшла яго «Гісторыя Беларусі». На творчым рахунку пісьменніка трыццаць кніжак, сярод іх асаблівай папулярнасцю карыстаецца даследаванне «Па слядах герояў трылогіі» (маецца на ўвазе трылогія Г. Сянкевіча «Агнём і мячом», «Патоп», «Пан Валадыеўскі») — гэтая кніга вытрымала чатыры выданні.

Польскі госць прыехаў у Беларусь у сувязі з падрыхтоўкай да другога выдання «Гісторыі Беларусі». Ён азнаёміўся са славутымі мясцінамі Мінска, Навагрудка, Міра, Нясвіжа, зрабіў паездку на возера Свіцязь.

Марцэлі Косман меў гутарку ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у якой прынялі ўдзел старшыня праўлення Максім Танк і першы сакратар праўлення Ніл Гілевіч.

**А. ГАРДЗІЦКІ.**

## СУСТРЭЧА З АМЕРЫКАЙ

«Па гарадах Амерыкі» — так называецца выстаўка графічных работ члена Саюза мастакоў СССР, заслужанага работніка культуры БССР Уладзіміра Садзіна, якая адкрылася ў слуцкім кінатэатры «Цэнтральны».

На выстаўцы экспануецца трыццаць графічных работ, выкананых акварэллю, гуашшу і пастэллю.

У Злучаных Штатах Амерыкі Уладзімір Сцяпанавіч пабываў у складзе тургрупы Саюза савецкіх таварystваў дружбы, дзе ўдзельнічаў у мерапрыемствах Амерыканскіх таварыстваў дружбы, прысвечаных СССР.

На гэтай выстаўцы гледачы падоўгу і з вялікай цікавасцю знаёміліся з такімі работамі, як «Вашынгтон. Аэрапорт», «Нью-Йорк. Бруклінскі мост», «Плошча ў Балціморы», «Вуліца ў Філадэльфіі», «Вечар на Гудзоне», і іншымі.

Абстрактнаму амерыканскаму мастацтву прысвечаны работы: «Вашынгтон. Скульптура Амерыкі», «У музеі сучаснага мастацтва», «Філадэльфія. Помнік бялізнавай прышчэпцы».

Уражанні, атрыманыя ад паездкі ў Амерыку, паслужылі мастаку жывым матэрыялам для стварэння гэтых графічных работ.

**Г. САЛАВЕЙ.**

## МАДЭЛЬ САЦРЭАЛІЗМУ Ў ПЕРЫЯД ПЕРАБУДОВЫ

# НОВЫЯ «БЕРАГІ»

Пасля спецыяльных даследаванняў і аналізу савецкі літаратуразнавец В. Лук'янін прыйшоў да вываду: «Паняцце «сацыялістычны рэалізм» у мастацтве знікла з паўсядзённай крытыкі».

Уласна кажучы, гэта прыкметна і без спецыяльных даследаванняў. Я прысутнічаў, напрыклад, на трох апошніх з'ездах савецкіх творчых саюзаў—пісьменнікаў, архітэктараў, мастакоў,—і аб сацыялістычным рэалізме тут упаміналася, здаецца, толькі ў справаздачных дакладах праўлення.

Як ні сумна прызнацца, само паняцце «сацрэалізм» скампраметавана чыноўнікамі ад культуры, рамеснікамі ад мастацтва, начотчыкамі ад літаратуры. Менавіта таму пра яго маўчалі на сваіх з'ездах архітэктары, пісьменнікі, і ў мастацтве. Ён не вінаваты, што, прыкрываючыся ім, за праўду вельмі часта выдавалі няпраўду, а ісціну падмянялі легендай і міфам.

За гады культу асобы, за гады застою сацрэалізм спыніўся ў сваім развіцці. Ва ўсякім разе, сёння, у новай грамадскай сітуацыі, ён, відавочна, павінен выглядаць па-новаму, выступіць у новай якасці. Гэты пункт гледжання аб'ядноўвае амаль усіх.

Але што канкрэтна маецца на ўвазе? Якой мяркуецца «мадэль» сацрэалізму? Савецкія даследчыкі «новай перабудоўчай хвалі» лічаць, што сацрэалізм—гэта перш за ўсё праўда. Праўда жыцця ў марксісцка-ленінскім яе разуменні ёсць такі погляд на рэчаіснасць, пры якім яна раскрываецца як барацьба супярэчнасцей, а развіццё—як вырашэнне іх. Калі ў аснову метаду кладзецца такое разуменне праўды, ён немінуча стане дыялектычна рухомым, здольным да самаразвіцця.

Усё правільна і ... крыху сумна. Нездарма гавораць, што новае—гэта добра забытае старое. Менавіта такім бачылі сацрэалізм Горкі і першы савецкі міністр культуры Луначарскі, многія сапраўдныя пісьменнікі, мастакі, рэжысёры. Менавіта так разумелі яго Марцін Андэрсен-Нэксе, Луі Арагон, Пабла Нэруда...

Так, нязменнасць ...насці сацрэалізму — гэта праўда жыцця. Праўда супярэчнасцей—крыніца развіцця. Так павінна быць і на практыцы. Сёння для гэтага, пасля доўгага перапынку, існуюць добрыя магчымасці і перспектывы.

Сацрэалізм, лічыць адзін з найбольш аўтарытэтных сёння літаратурных крытыкаў Г. Куніцын, мае на ўвазе свабоднае, творчае спаборніцтва, якое нараджае мастацкую разнастайнасць пры адзінстве палітычнай пазіцыі.

Дададзім, што сацрэалізм сёння— гэта і ўварванне ў «забаронныя зоны», гэта і даследаванне «белых» і «чорных» плям гісторыі, выкарыстанне самых вострых сродкаў мастацкай выразнасці, развіццё традыцый гуманізму і сапраўднай грамадзянскасці. Гэта «Дзеці Арбата» А. Рыбакова, «Начавала хмарка залатая» А. Прыстаўкіна, кнігі В. Астаф'ева, В. Быкава, В. Распуціна, Ч. Айтматава, В. Гросмана...

мастакі: у перыяд рэформ і перамен, у перыяд карэннай перабудовы духоўнага жыцця грамадства сацрэалізм у мастацтве паўстае як нешта застылае, як вялікая Догма.

Толькі багасловы ствараюць атэістаў, гаварыў Вальтэр. У гэтым выказванні многа праўды. На зыходзе сярэдніх стагоддзяў абаронцы царквы сваім стараннем дабіліся процілеглага выніку. Аднак бывае і так, што атэісты ствараюць багасловаў. Гэта здараецца тады, калі атэізм навязваецца прымусова. Добра вядома, што любую ідэю, нават самую правільную, можна ператварыць у трафарэт і тым адняць у яе ці аслабіць уласцівую ёй сілу пераканання.

Вядома, памылкова пераносіць пратэст супраць коснасці і дагматызму на высокую традыцыю рэалізму ў мастацтве. Сацыялістычны рэалізм зусім не вінаваты ў тым, што чыноўнікі ад культуры і лакіройшчыкі рэчаіснасці ператварылі яго ў плоскі штамп.

Сацрэалізм, заўважу дарэчы, не быў штучным параджэннем, не быў прыдуманы бальшавікамі. «Маці» Горкага напісана, напомню, да сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 года. Паэзія Э. Пацье і яго «Інтэрнацыянал» створаны ў XIX стагоддзі. Зародкі сацыялістычнага рэалізму з'яўляліся там, дзе сацыялізм авалодваў свядомасцю мас.

Вырастаючы з самога жыцця, з развіцця самога мастацтва, сацрэалізм заўсёды і меў на ўвазе развіццё. Таму ён не скоўваў свабоду творчасці савецкіх пісьменнікаў і мастакоў, яго добраахвотных прыхільнікаў. Як не скоўваў свабоду Байрана і Гейнэ рамантызм, Манэ і Рэнуара — імпрэсіянізм. Свабоду творчасці скоўвалі бюракраты ўсіх рангаў, гэта яны перашкаджалі развіццю, гэта яны вінаваты ў застоі, у з'яўленні кан'юнктурных твораў.

Надуманы раман «Кавалер Залатой Зоркі» С. Бабаеўскага (аб «райскім» жыцці на вёсцы ў цяжкія пасляваенныя гады) лічыўся, на жаль, узорам сацыялістычнага рэалізму. На самай справе ён не мае ніякіх адносін ні да сацыялістычнай свядомасці, ні да рэалістычных поглядаў на жыццё. У ім няма праўды, а ёсць лакіроўка.

Не сацрэалізм прадпісваў пісьменнікам тэмы і сюжэты, вызначаючы «лепшыя» творы савецкай літаратуры. Гэта рабіў Сталін. Не сацрэалізм падвяргаў астракізму Ахматаву і Зошчанку. Гэта зрабіў Жданаў.

Па сваёй сутнасці сацрэалізм не прымае хлусні і выступае за праўду—і ў жыцці,

Паняцці «сацрэалізм» і «савецкая літаратура», «савецкае мастацтва» не ідэнтычныя. Сацрэалізм—асноўны метад савецкага мастацтва, але яно ім, зразумела, не вычэрпваецца. Далёка не ўсе савецкія мастакі мінулага і сучаснасці— сацыялістычныя рэалісты. У краіне тварылі і сёння свабодна твораць прадстаўнікі натуралізму, рамантызму, сімвалізму, імпрэсіянізму, мадэрнізму. Сацрэалізм не сальецца з мадэрнізмам, як меркаваў некалі Р. Гародзі. Але асобныя мастацкія прыёмы, скажам, Кафкі, Бекета, Далі, могуць быць творча выкарыстаны (і ўжо выкарыстоўваюцца) у творах, напісаных у яго ключы.

Сацрэалізм убірае ў сябе ўсё цікавае ў сусветным мастацкім працэсе. Але ў яго застаюцца свае «берагі». Ён не здрадзіць сваім сацыялістычным прынцыпам, а, наадварот, расшырыць іх. І будзе адмаўляць (у гэтым можна пераканацца па творах, што робяць сёння пагоду) тое, што ізалюе мастацтва ад жыцця, а чалавека ад людзей.

**Гаўрыіл ПЕТРАСЯН.**

*ТЭАТР ШУКАЕ НОВАЕ, ПАМЯТАЮЧЫ СВАЮ ГІСТОРЫЮ*

# З ЛЯЛЬКАМІ — ПАЎСТАГОДДЗЯ

Уявіце сабе звычайную вясковую хату, поўную людзей. У цэнтры — рад крэслаў, прыкрытых тканінай, за імі — чатыры акцёры: З. Талчынская, М. Лімане, А. Ліўшыц, К.Замешына. Першая група беларускіх лялечнікаў-аматараў. Цяпер яны пачнуць прадстаўленне—без звыклых шырмы і сцэны, пры слабым асвятленні, магчыма, пры свечках. Гэта іх не бянтэжыць. Яны натхнёныя адным жаданнем: узнавіць, няхай самымі сціплымі сродкамі, свет, поўны цудоўных ператварэнняў...

З таго часу прайшло паўстагоддзя!

Але і сёння ў калектыву Дзяржаўнага тэатра лялек БССР тыя ж высакародныя мэты: сваім мастацтвам дапамагаць людзям стаць больш шчырымі, спагадлівымі, добрымі. Напэўна таму, насуперак узросту, ззяюць любоўю да жыцця вочы акцёраў старэйшага пакалення— заслужанага артыста БССР Уладзіслава Уласава, артыстак Лідзіі Мікулы, Ліанелы Пахомавай, Валянціны Бражэевай, для якіх лёс тэатра стаў іх лёсам.

У дзень афіцыйнага адкрыцця, 15 ліпеня 1938 года, у Гомелі тэатр не меў нават свайго памяшкання. Гаспадарчая неўладкаванасць праследавала калектыў доўгія гады. І тым не менш існаванне «на колах», ва ўмовах выпадковых сцэнічных пляцовак не адбіла ў акцёраў ахвоту тварыць, дабівацца прафесійнага росту.

Першай пастаноўкай Дзяржаўнага тэатра лялек стала п'еса-казка Л. Тарахоўскай «Па шчупаковаму загаду». Асабліва цёпла прымалі спектакль сельскія гледачы.

У першае дваццацігоддзе сваёй дзейнасці тэатр будуе рэпертуар толькі ў разліку на дзяцей. А матэрыялам для пастановак служыць казка—жанр, такі любімы маленькім гледачом. Таму што ў ёй звычайныя прадметы набываюць цудоўныя ўласцівасці, дзеянне захоплівае дух дынамізмам і нечаканасцю, але галоўнае—заўсёды перамагае дабро.

Найбольш любімыя казкі, такія як «Іван-царэвіч і Шэры Воўк», «Па шчупаковаму загаду», «Іван — сялянскі сын», адраджаліся на сцэне зноў і зноў. Але рэкорднай по колькасці пастановак стала п'еса Віталя Вольскага «Дзед і Жораў», напісаная для тэатра яшчэ ў 1939 годзе. Яна налічвае восем сцэнічных інтэрпрэтацый. Сёння — гэта беларуская класіка, а спектакль — своеасаблівая візітная картка тэатра.

Нацыянальная драматургія — надзейны фундамент арыгінальнага рэпертуару Мінскага лялечнага. Ні з чым не параўнальнае пачуццё Радзімы, хвалюючая прыцягальнасць каларытнай мовы, традыцый і чалавечых характараў пранізваюць спектаклі па п'есах беларускіх аўтараў. Сярод гэтых пастановак «Балада пра белую вішню» С. Клімковіч, «Дзякуй, вялікае дзякуй» і «Скажы сваё імя, салдат» А. Вярцінскага, «Граф Глінскі-Папялінскі» А. Вольскага.

Тэатр з вялікай цікавасцю звяртаецца і да твораў замежных аўтараў, такіх як П. Манчаў, Р. Кіплінг, Г.-Х. Андэрсен, Д. Радары. Спектаклі «Заечая школа», «Сланяня», «Салавей», «Прыгоды Чапаліна» па аднайменных казках гэтых вядомых пісьменнікаў, думаецца, узбагацілі дзяцей новым бачаннем навакольнага свету.

Рабіць сваё мастацтва полем прыцягнення ўвагі гледачоў на працягу доўгага часу—задача не лёгкая, але захапляючая. Найбольш поўна рэалізаваць яе калектыву тэатра ўдаецца ў спектаклях для дарослай аўдыторыі. Адна з першых такіх пастановак—«Чортаў млын» І. Штока ў 1968 годзе. У спектаклі лялькі з іх сатырычнай зададзенасцю сталі бязлітаснымі выкрывальнікамі ўсяго коснага, грубага, аджыўшага.

Трапна б'юць лялечнікі па мяшчанству, амаральнасці ў спектаклях «Клоп» У. Маякоўскага, «Ляўша» М. Ляскова, «Да трэціх пеўняў» В. Шукшына, «Майстар і Маргарыта» М. Булгакава.

Трывалую сімпатыю гледачоў заваяваў спектакль «Боская камедыя». Гэтая пастаноўка—сапраўдны доўгажыхар на сцэне тэатра, і тым не менш яна не старэе.

Сённяшнія спектаклі тэатра вызначаюцца перш за ўсё разнастайнасцю ігравых сродкаў. На замену пальчатковаму Пятрушцы прыйшлі лялькі самых розных памераў і канструкцый. Замест шырмы з тканіны—складаная сістэма дэкарацый, цуды светла- і гукатэхнікі. І ўсе гэтыя прыёмы могуць арганічна спалучацца, пераходзіць адзін у другі, так што перад гледачом разгортваецца захапляючы свет людзей, масак і лялек, здольны ўвасобіць любы тэатральны жанр, любое адценне сэнсу—ад пяшчотнай лірыкі да гратэску.

Не стаяць на месцы, разнастаіць палітру творчых дасягненняў свежымі яркімі фарбамі дапамагаюць фестывалі тэатраў лялек. Яны ж— важнейшы прафесійны экзамен. Дзяржтэатр лялек БССР —член УНІМа, абавязковы ўдзельнік усіх форумаў лялечнікаў, іх неаднаразовы дыпламант і прызёр.

Геаграфія гастрольных паездак Мінскага лялечнага сёння вельмі разнастайная і шырокая. Са сваім мастацтвам тэатр пастаянна знаёміць жыхароў роднай Беларусі, а таксама саюзных рэспублік, паспяхова гастраляваў у Балгарыі, Францыі, ФРГ. Але *асабліва* дарагі для мінчан творчы дыялог з тэатрам лялек горада Любляны (СФРЮ), з якім калектыў актыўна супрацоўнічае.

Сучасны тэатр лялек горада Мінска шукае новае, добра памятаючы сваю гісторыю. Вузкая функцыянальнасць рэпертуару, былая яго «дзіцячасць» саступаюць месца напрамку, які дазволіць яму стаць цікавым для ўсіх пакаленняў гледачоў. Адсюль і адказнейшая задача калектыву — дабівацца сцэнічнага асэнсавання агульначалавечых, вечных праблем быцця. Гэтай сур'ёзнай мэце служыць шмат выразных сродкаў, якія сінтэзуюць сімволіку лялечнага дзейства і жывую пластыку драматычнай акцёрскай ігры.

Нягледзячы на свой узрост, тэатр сёння поўны сіл. Малады яго галоўны рэжысёр Аляксей Ляляўскі, большасць акцёраў, якія працуюць поплеч з вопытнымі майстрамі. Здолеўшы зберагчы каштоўныя традыцыі, яны ўзбагачаюць і развіваюць іх з усёй страснасцю аднадумцаў.

**Ніна ЗЛАТКОЎСКАЯ.**



**НА ЗДЫМКУ:** артыстка тэатра лялек Валянціна **БРАЖЭЕВА** і заслужаны артыст БССР Уладзімір **ГРАМОВІЧ** знаёмыя маленькім гледачам не толькі па тэатральнай сцэне. Яны — удзельнікі папулярнай дзіцячай тэлеперадачы «Калыханка».

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

## *ЗА ВЫСОКАЕ МАЙСТЭРСТВА*

Калектыў мастацкай самадзейнасці Ашмянскага сельскагаспадарчага тэхнікума, што на Гродзеншчыне, заваяваў папулярнасць не толькі ў сваім раёне. З задавальненнем наведваюць яго канцэрты жыхары абласнога цэнтра. На розных творчых аглядах самадзейным артыстам спадарожнічае поспех. Даводзілася ім выступаць на рэспубліканскім конкурсе. Майстэрства спевакоў і танцораў не раз заслугоўвала высокіх ацэнак строгага журы. А таму пастаянна расце «калекцыя» ўзнагарод — грамат і дыпломаў, прызоў.

А вось і новае «папаўненне». Нядаўна ў Ашмяны прыйшлі радасныя паведамленні з Масквы. За дасягненне высокіх вынікаў клуб сельгастэхнікума ўзнагароджаны дыпломам ВЦСПС. Удастоены ўзнагароды і танцавальны калектыў. Яму за актыўны ўдзел ва Усесаюзным фестывалі народнай творчасці і высокае харэаграфічнае майстэрства прысуджаны спецыяльны дыплом рэдкалегіі часопіса «Советский балет».



Люблю я бываць на выстаўках самадзейных мастакоў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ці на кірмашах. Заўсёды ўбачыш тут нешта арыгінальнае, незвычайнае, абавязкова пазнаёмішся з цікавым чалавекам.

Вось і з Юрыем Малішэўскім мы сустрэліся на выстаўцы. Малады чалавек, як фокуснік, браў чорную ці каляровую паперу, складваў у некалькі разоў, а потым нажніцамі пачынаў выразаць. Пасля разгортваў паперу і гледачы пачыналі ахаць, уражаныя прыгажосцю атрыманага ўзору.

Гледзячы на гэтыя выцінанкі, я адразу прыгадаў сваё пасляваеннае дзяцінства. Жылі мы тады беднавата. Каб завесіць вокны, мама брала газету, складвала яе ў некалькі разоў і вырэзвала. Атрымліваліся даволі сімпатычныя самадзельныя фіранкі, якія ўпрыгожвалі нашу хату.

Зацікавіўся я выцінанкамі Юрыя Малішэўскага — вельмі ўжо яны спадабаліся мне, ды і нагадалі пра дзяцінства. Не проста папяровыя карункі ў яго атрымліваюцца, а сапраўдныя творы мастацтва. Ёсць сюжэты з народнага побыту, складаныя кампазіцыі, выкананыя па матывах фальклору, народных казак... Сам Юрый Малішэўскі працуе мастаком-афарміцелем у Ружанскім Доме культуры, што на Брэстчыне. А ў вольны час займаецца любімай справай — выцінанкамі. Тут ён дае волю фантазіі. Свае работы Юрый часта дорыць сябрам, знаёмым; нярэдка ўдзельнічае ў выстаўках самадзейных мастакоў.

Тэкст і фота І. КУРМАНОВІЧА.

НА ЗДЫМКАХ: выцінанкі Ю. МАЛІШЭЎСКАГА.







*ЛЮБЫЯ СЭРЦУ МЯСЦІНЫ*

# ТРАБСКІ МЛЫН

Назва «мястэчка», якая давалася невялікім, з прыкметамі горада населеным пунктам, у наш час амаль не ўжываецца. Прыблізна такі ж тып паселішча мы цяпер называем гарадскім пасёлкам ці сялом.

Але і назва гэта, і самі пасяленні такога тыпу вядомы ўжо з чатырнаццатага стагоддзя. Прычыны ўзнікнення мястэчак і эканамічныя ўмовы іх існавання — розныя, але агульным заўсёды было тое, што насялялі іх у асноўным рамеснікі, гандляры і панская абслуга. Пасля адмены прыгоннага права жыхары мястэчак, у адрозненне ад сялян, называліся мяшчанамі.

Звычайна мястэчка як населены пункт складвалася каля якога-небудзь багатага памесця ці на бойкай дарозе і падпарадкоўвалася феадалу, манастыру ці нават каралю.

Такое гістарычнае мінулае мястэчка-сяла Трабы на Гродзеншчыне. Яно ўпамінаецца яшчэ ў XV стагоддзі. Валодалі ім князі Трабскія, потым Гоштальды, з сярэдзіны XVI стагоддзя разам з замкам яно перайшло ва ўласнасць караля, а потым доўгі час належала казённай палаце.

Трапіўшы ў сучасныя Трабы — невялікае сяло, што выцягнулася ўздоўж старой дарогі, якая некалі вяла з Вільні на Валынь, няцяжка зразумець, чаму менавіта гэта месца выбраў пад замак першы з князёў Трабскіх — легендарны ваяўнік Трабус. Вакол пясчаныя высокія ўзгоркі і вузкія даліны, цяжкадаступная гарыстая мясцовасць. Наверсе сёння добра відаць земляныя валы, і месцамі з-пад наплываў старога дзірвану праступаюць магутныя фундаменты былых сцен.

Не апошнюю ролю ў выбары месца пад замак адыгрывала рака Клева. Тут у сярэднім сваім цячэнні Клева праразае ланцуг узгоркаў і мае вялікі спад — надзвычай хуткае для нашых мясцаў цячэнне. Акрамя таго, сціснутая ўзгоркамі даліна ракі — вузкая і можа быць лёгка перакрыта дамбамі і плацінамі.

Трабы, дзе земляробства даходу не прыносіла (зямля на ўзгорках пясчаная, неўрадлівая), увайшлі ў гісторыю як «млыннае» і суканвальнае мястэчка. І без спецыяльных археалагічных даследаванняў тут няцяжка адшукаць сляды добрага дзесятка дамбаў.

А вось афіцыйныя, з дакументаў, звесткі: у 1813 годзе ў Трабах на суконнай мануфактуры працавалі 156 рабочых. Па тых часах гэта была буйная вытворчасць. Паравых рухавікоў яшчэ не ведалі, суканвальныя машыны прыводзіла ў рух тое ж, што і на млынах, — класічнае вадзяное кола.

Старажылы помняць, як яшчэ да вайны ў Трабах на каскадзе сажалак працавалі тры млыны, а вышэй па цячэнню— яшчэ два. У выніку азёры займалі немалую плошчу і прыкметна ўплывалі, асабліва тут, у замкнёнай узгоркамі даліне, на мікраклімат — рабілі яго больш вільготным.

Акрамя таго, азёры заўсёды давалі нямала рыбы. А якім упрыгажэннем мястэчка яны былі!

Чатыры гады таму назад тут быў закрыты і разбураны апошні са славутых трабскіх млыноў. Новы дырэктар саўгаса «Трабскі» Мікалай Дуніч, які працуе год у гаспадарцы, прапанаваў сваім спецыялістам аднавіць спачатку хаця б адзін, у саміх Трабах, млын, дамба і плаціна якога фактычна цэлыя, а затым вышэй па цячэнню — яшчэ два. Ініцыятыва была падтрымана. Першы трабскі млын ужо аднаўляецца — на грамадскіх асновах.

Кіруе аднаўленчымі работамі Іосіф Васілеўскі — млынар на апошнім трабскім млыне, цяпер ён зноў згодны стаць млынаром. Па яго падліках, млын акупіць сябе праз год.

Мяркуючы па тым, як узяліся ў старым сяле-мястэчку Трабы за аднаўленне млыноў, будзе тут каскад блакітных азёр з млынамі ў рэчышчах, раскінуцца над імі вербы і заспяваюць зноў салаі. Так што аднаўленне гэтых старых пабудоў адродзіць і традыцыйны пейзаж, і спрыяльны клімат старажытнага, з пяцісотгадовай гісторыяй, сяла.

**Леанід ПРАКОПЧЫК.**

## АДНАЎЛЯЮЦЦА ДАМЫ СЛАВУТЫХ МІНЧАН

Вытворчае аб'яднанне «Белрэстаўрацыя» адзін за другім аднаўляе каштоўныя помнікі даўніны, у тым ліку розныя мемарыяльныя будынкі. Вяртаючы як бы нас гэтым да старонак жыцця славутых землякоў, адначасова ўзнаўляючы і карціну мінулага Мінска.

На вуліцы Рабкораўскай вопытныя майстры ўзнаўляюць пяціпакаёвы жылы дом, у якім у 1916 годзе жыў Змітрок Бядуля і Максім Багдановіч.

...Максім нарэшце пераехаў у Мінск, дзе ён у 1891 годзе нарадзіўся і адкуль гадавалым дзіцем быў бацькам звезены спачатку ў Гродна, а затым у Ніжні Ноўгарад і Яраслаўль. Нягледзячы на цяжкую хваробу, паэта цягнула ў родныя мясціны, і ў 1916 годзе, у разгар першай сусветнай вайны, аўтар зборніка вершаў «Вянок» прыехаў у Мінск. Прыкладна тры месяцы паэт пражыў у адным пакоі са Змітраком Бядулем. Пісаў, раіўся. Быў поўны задум.

Але здароўе пагаршалася, і сябры настаялі на ад'ездзе ў Крым. Адсюль, з гэтага сціплага будынка і паехаў паэт у Ялту, не ведаючы, што больш ужо ніколі не вернецца ў Беларусь. Тым і дарагі нам гэты непрыкметны з выгляду дом, апошні прытулак М. Багдановіча на беларускай зямлі.

А ў другім канцы сталіцы, на тэрыторыі архітэктурнага запаведніка Верхні горад, рэстаўрыруецца яшчэ адзін дом, гэта па вуліцы Інтэрнацыянальнай. Тут у першай палове XIX стагоддзя жыў і працаваў вядомы беларускі мастак Валянцін Ваньковіч. Ён памёр у Парыжы, сусветным цэнтры выяўленчага мастацтва, але лепшыя свае творы В. Ваньковіч стварыў на роднай зямлі, у Мінску.

**Я. САДОЎСКІ.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

**НАШ АДРАС:**

МІНСК-ГСП, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.
Зак. 949